www.nv-online.info

№ 98 (4043)

15 снежня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НЕЗЛОБИВЫЕ ЗАМЕТКИ



Семен БУКЧИН

## Ужас перед Нобелем

Оцепенение, в которое впала белорусская власть и обслуживающая ее государственная пропаганда в связи с присуждением Нобелевской премии Светлане Алексиевич, сродни ужасу человека, столкнувшегося с коброй. Ну, казалось бы, все схвачено в стране, все знают свои места – чиновники, писатели, не говоря о прочей шелупени, именуемой «народцем». И вдруг такое: какая-то Шведская академия, не согласовав вопрос с президентом Беларуси, дает Нобелевскую премию по литературе писательнице, которая даже в литературную организацию, возглавляемую самим Николаем Ивановичем Чергинцом, не входит.

Это непорядок! Ибо в нашей стране, кто выдающийся, а кто невыдающийся писатель, определяет один человек. И, конечно, членам Шведской академии нужно было хотя бы позвонить в Минск и поинтересоваться мнением руководства страны. Так, мол, и так, хотим наградить кого-нибудь из литераторов вашей страны. Не подскажете ли? Неужели бы мы достойного человека не нашли? Того же, скажем, Николая Ивановича.

Но разве шведы понимают настоящий международный этикет, разве это проявление дружественных чувств к белорусскому народу – давать премию по литературе не согласованному с руководством страны человеку? Явное неуважение! Ведь тот же король шведский, если он настоящий правитель в своей стране, мог бы подсказать членам Нобелевского комитета, как следует поступить, чтобы проявить истинно дипломатический такт. А король вместо этого попросту вручает гражданке Беларуси диплом Нобелевского лауреата, совершенно не интересуясь мнением Главного человека в Беларуси.

И после этого там, на Западе, еще смеют говорить о своем якобы стремлении к добрым отношениям с Республикой Беларусь! Им бы взять пример с наших традиций. У нас вот секретарь обкома партии всегда знал, что перед принятием какого-то решения нужно позвонить в ЦК, выяснить отношение вышестоящих товарищей. И сейчас этот порядок вертикальный незыблем у нас. Понятно, что шведский король – человек не наших традиций. Но все-таки какую-то коллегиальность нужно соблюдать. Ты король, я президент – неужели не можем договориться? Мы же руководство!

Ну и что прикажете после этого делать? Расстилать перед этой Алексиевич красную дорожку? Устраивать в ее честь торжественный вечер во Дворце Республики, под звуки симфонического оркестра президент ей должен вручать цветы, благодарить за то, что она прославила свою страну, а потом слушать речи разных «свядомых»?

Вообще-то, будь другие времена, эту самозваную «нобелиатку» следовало бы если не посадить, то организовать всенародное осуждение этого ее «Секонд-хэнда» как клеветы на наш народ, а потом, как Пастернака, заставить каяться и просить не высылать из страны. Но, жаль, времена не те. Поэтому приходится терпеть. Пришлось даже, сжав зубы, поздравить. Кстати, мне, к примеру, очень любопытно, каким было по форме это поздравление… Надеюсь, Светлана Александровна об этом еще расскажет.

Но времена действительно другие. Посадить и выслать нельзя. Поэтому приказано – замолчать. Весь мир говорит о присуждении Нобелевской премии по литературе белорусской писательнице. А у нас есть дела поважнее – то же, к примеру, совещание «по вопросам развития хоккея». Это то, что действительно интересует народ. Соответственно и средства массовой информации должны себя вести. Там у нас, слава Богу, и на телевидении, и в газетах люди понимающие, хорошо обученные. На лету схватывают все, что нужно. И подсказывать не нужно. Вот и последняя «Панорама» на ТВ очень прилично повела себя. Все трубят об этой Алексиевич. А у нас как бы и не было этого события. Ну нет у нас такого нобелевского лауреата. И король шведский должен зарубить это себе на носу. Тут, в Беларуси, мы решаем, кто нобелевский лауреат, а кто нет.

Вот замолчали эту вражескую идеологическую вылазку, и ведь никто из журналистов Белорусского телевидения не удивился, не удавился от стыда, не подал в отставку. О чем это говорит? О том, что за 20 лет у нас воспитаны правильные журналистские кадры. И королю шведскому впору бы прислать своих журналистов на практику к нам. Мы бы их обучили правильному обхождению с фактами.

… Но это все мечты и пожелания. А пока ужас душит. Нобелевская премия белорусской писательницы – ведь это прямое покушение на президентскую власть. А потерять власть – это самое страшное. И не может взять в голову наш правитель, что все, что он и его чиновники проделали в белорусские нобелевские дни, это и есть потеря власти. То, чего они больше всего боятся. Вместе со своей холуйской журналистикой.

ВІЗІТ

## Ці «наклонит» Масква Лукашэнку?

Не паспелі астыць рухавікі прэзідэнцкага лайнера пасля візітаў у В'етнам і Туркменістан, як зноў была дадзена каманда "На ўзлёт". Гэтым разам беларускі "борт нумар 1" узяў курс на Маскву.

Нагадаем, што сам Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што свой першы замежны візіт пасля прэзідэнцкіх выбараў здзейсніць у Белакаменную. Аднак сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Расіі была раптоўна адменена. І вось цяпер Уладзімір Пуцін сам запрасіў…

І расійскія, і беларускія аналітыкі выказаліся адзінадушна: Лукашэнка зноў едзе ў Маскву за грашыма. Справа ў тым, што Беларусь яшчэ на пачатку 2015 года запрасіла ў Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця, дэ-факта кантралюемага Расіяй, крэдыт у памеры 3 мільярды долараў. Амаль год нам маталі нервы, ведаючы, што грошы Беларусі вельмі патрэбны. У выніку Мінск зменшыў "апетыт" да 2 мільярдаў, але і гэта не дало выніку: літаральна днямі міністр фінансаў РФ Антон Сілуанаў паведаміў, што Расія заблакіравала выдзяленне крэдыту Беларусі.

Зразумела, гэта сведчыць пра тое, што стасункі паміж дзвюма краінамі не на лепшым узроўні. Пра сур'ёзныя разыходжанні паміж Пуціным і Лукашэнкам напісалі амаль усе расійскія СМІ. У першую чаргу – пра тое, што Беларусь занадта крута бярэ курс на збліжэнне з Захадам. Расіянам гэта не даспадобы.

*"У любым выпадку алгарытм узаемадзеяння паміж Беларуссю і Расіяй павінен захоўвацца. Мінск дэманструе свае саюзніцкія абавязацельствы, а Масква за гэта плаціць"*, – напісала, напрыклад, інтэрнэт-выданне "Газета".

На думку расійскіх экспертаў, выкананне саюзніцкіх абавязацельстваў – гэта размяшчэнне на тэрыторыі Беларусі расійскай авіябазы. У Маскве нагадваюць, што паліўна-энергетычны баланс на 2016 год паміж нашымі краінамі таксама не падпісаны, а гэта для Беларусі лёсавызначальны дакумент, ад якога залежаць аб'ёмы і кошты пастаўкі ў Беларусь расійскага газу і расійскай нафты. У дадатак да 2-мільярднага крэдыту гэта важкі аргумент у перамовах.

Але пра адмову мець расійскую авіябазу беларускі кіраўнік заяўляў адназначна і рашуча. Не менш рашуча ён запэўніваў, што нікому не ўдасца яго "наклонить". Час праверкі на гнуткасць надышоў.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

БЛІЦ

**Сёлета кожнае трэцяе прамысловае прадпрыемства ў Беларусі з'яўляецца стратным. Агульныя недаатрыманні складаюць 23,4 трыльёна рублёў**

## Якая сітуацыя будзе ў 2016 годзе?

**Кацярына БАРНУКОВА,** *эксперт Беларускага эканамічнага даследча-эканамічнага цэнтра (BEROC):*

– Не думаю, што сітуацыя зменіцца. Адзінае, што можна зрабіць, дык гэта абанкруціць частку стратных прадпрыемстваў, інакш яны не змогуць выплаціць тыя пазыкі, якія назапасілі. Прадпрыемствы арыентуюцца на расійскі рынак, але ў наступным годзе наўрад ці выправіцца эканамічная сітуацыя ў самой Расіі. Калі ж абанкруціць прадпрыемствы, то тады можна будзе нейкім чынам спісаць іх пазыкі.

**Таццяна КАРАЛАК,** *намеснік гендырэктара па эканоміцы і фінансах Мінскага маторнага завода:*

– Мы не стратнае прадпрыемства. У нас усё нармальна, і ў наступным годзе, спадзяюся, усё будзе нармальна.

**Антон БОЛТАЧКА,** *эканаміст, эксперт "Ліберальнага клуба":*

– Калі не адбудзецца змен у адносінах да дзяржаўных прадпрыемстваў, то прадпрыемствы будуць і далей адчуваць цяжкасці з фінансамі. Калі ж адбудуцца змены, а гэта павелічэнне крэдытнай падтрымкі ў выглядзе субсідый ці льготных крэдытаў, то прадпрыемствы змогуць толькі часова выправіць сваё становішча. Калі ж адбудзецца спроба ажыццявіць палітыку жорсткіх бюджэтных абмежаванняў (маецца на ўвазе скарачэнне дзяржпадтрымкі), то прадпрыемствы апынуцца ў складанай эканамічнай сітуацыі і будуць вымушаны абапірацца на ўласныя сілы ў час крызіснага існавання – шукаць рынкі збыту, нейкія спосабы атрымаць інвестыцыі, скарачаць рабочыя рэсурсы, пераарыентоўваць вытворчасць на выпуск нейкай іншай прадукцыі.

**Сяргей КАЗАК**, *начальнік ліцейнага цэха слуцкага прадпрыемства "Эмальпосуд":*

– Па сутнасці, наша прадпрыемства практычна ўжо зараз не існуе. Пасля таго, як нас у красавіку далучылі да аршанскага "Легмаша", наша прадпрыемства стала цэхам. Хаця гэта было адзінае прадпрыемства, якое выпрацоўвала чыгунны посуд. Сёння, калі мы не знойдзем грашовыя сродкі на рамонт даху над ліцейным цэхам, то прадпрыемства проста знікне. Будынак прызналі аварыйным, таму працаваць нельга. Што гэта азначае? Што патэльні і чыгуны на беларускім рынку будуць толькі кітайскія, а гэта іншая якасць, горшая за айчынную. Уся праблема ў фінансах. Але ці знойдуць іх аршанцы, якія некалі выпускалі швейныя машыны, а цяпер вырабляюць на замову нейкія дэталі для жлобінскага прадпрыемства, нам не вядома...

**Дзмітрый НАВАСЁЛАЎ,** *галоўны інжынер прадпрыемства "Забудова" (в.Чысць):*

– У нас была вельмі цяжкая сітуацыя. Цяпер мы ў працэдуры санацыі. 8 ліпеня быў суд з гэтай нагоды. Санацыя – гэта аздараўленне прадпрыемства: усе нашы працэнты па крэдытах і абавязковыя плацяжы на 18 месяцаў замарожаны. Мы не будзем гэты час іх выплачваць, і гэта для нас будзе перадышкай. Раней жа працэнты кладліся на сабекошт. Цяпер мы можам прадаваць прадукцыю пакупнікам не па 840 тысяч, а па 680 тысяч за блок. Мы шукаем іншыя рынкі збыту. Свой ячэісты бетон спрабуем прадаваць праз смаленскую кампанію ў Расіі, але не ў тым аб'ёме, на які разлічвалі, бо там таксама крызіс. Цяпер наша галоўная задача знізіць сабекошт і павысіць якасць прадукцыі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ТЭНДЭНЦЫЯ

## Уклады «схуднелі»...

У лістападзе беларусы працягнулі здымаць свае зберажэнні з рахункаў у банках. Уклады зменшыліся і ў рублях, і ў валюце. Як сведчыць грашова-крэдытная статыстыка Нацбанка, у лістападзе грамадзяне забралі з банкаў 1,2 трыльёна рублёў. На 1 снежня рублёвыя зберажэнні насельніцтва склалі 27,4 трыльёна рублёў.

Адток укладаў адбыўся і па валюце – уклады "схуднелі" на 65 мільёнаў. Агульная сума назапашванняў у валюце на 1 снежня склала 7 мільярдаў 775 млн долараў.

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Праўда таннай не бывае

Той, хто ўжо гартаў падпісныя каталогі на першую палову 2016 года, заўважыў: у параўнанні з папярэднім перыядам цэны падскочылі, можна сказаць, на ўсе выданні.

"Народная Воля" – не выключэнне.

Ды і няма ў нас іншага выйсця. Шалёнымі тэмпамі растуць расходы, і паўстае дылема: альбо падняць кошт падпіскі, альбо спыніць выданне газеты.

Мы не фінансуемся з дзяржбюджэту, як не можам пахваліцца і дабрачыннай дапамогай збоку. У той жа час праўда таннай не бывае. Выданне "Народнай Волі" не толькі звязана з вялікай рызыкай, але і патрабуе вялікіх выдаткаў на паперу, паліграфію, дастаўку газеты ва ўсе куткі Беларусі, на падаткі, на многае іншае.

Кошт месячнай індывідуальнай падпіскі на студзень–чэрвень – 58.000 рублёў. Калі нехта скажа, што многа, – тады давайце паразважаем. Вы даўно былі ў краме? Колькі за гэтыя грошы можна купіць нармальнай каўбасы? Менш за кілаграм. Не больш набудзеце звычайнай рыбы – траскі. А на каробку смачных цукерак трэба наскрэбці ў два-тры разы болей. За 58.000 рублёў не купіш нават пляшку гарэлкі.

Ды што і казаць, вашы выдаткі на падпіску на "Народную Волю" выглядаюць мізэрнымі ў параўнанні з многімі іншымі. У той жа час колькі цікавай, змястоўнай інфармацыі Вы знойдзеце на старонках газеты, калі будзеце атрымліваць яе ў наступным годзе!

Не маеце магчымасці адразу аформіць падпіску на шэсць месяцаў – зрабіце гэта на любы тэрмін: на квартал, на два месяцы, месяц…

У любым выпадку мы хочам заставацца разам з Вамі, шаноўныя сябры!

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

**Рэдакцыя.**

СІТУАЦЫЯ

## Анатоль ШУМЧАНКА: «Закрыецца 740 рынкаў, страцяць работу 120 тысяч прадпрымальнікаў»

Учора ў Мінску прадпрымальнікі сабраліся на форум, каб абмеркаваць свае дзеянні ў новых умовах вядзення бізнесу. Як вядома, з 1 студзеня 2016 г. для ІП, якія гандлююць таварамі лёгкай прамысловасці, уводзяцца новыя правілы – наяўнасць сертыфіката на ўвесь тавар.

Лідар РГА «Перспектыва» **Анатоль Шумчанка** заявіў на форуме: "Закрыецца 740 рынкаў, страцяць работу 120 тысяч прадпрымальнікаў, колькасць беспрацоўных у краіне вырасце на 140 тысяч чалавек». На яго думку, выхадам з сітуацыі, якая склалася, можа стаць норма, паводле якой спажывец будзе сам вызначаць якасць набытага тавару.

ПЕРСОНА



## Народнік

*25 пытанняў музыканту, які не прымае разгулу дэмакратыі ў творчым калектыве, хоць біць аб падлогу гадзіннікі і ламаць дырыжорскія палачкі лічыць метадам састарэлым.*

Цымбалы, баяны, жалейкі, гармонікі, бубны... Заўтра са сцэны філармоніі загучаць беларускія інструменты: адбудзецца гала-канцэрт галоўнага калектыву нашай краіны – Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя Іосіфа Жыновіча. Калектыў прысвячае яго свайму 85-годдзю. Гэты найстарэйшы аркестр – сапраўдны музычны брэнд Беларусі. Калі хто-небудзь з гасцей спытае: "А як гучыць ваша Беларусь?» – я адпраўлю яго слухаць «Лявоніху» і «Крыжачок» у выкананні аркестра імя Жыновіча.

Апошнія 40 гадоў за дырыжорскім пультам калектыву стаіць таленавіты музыкант і педагог, вядомы ў краіне чалавек **Міхаіл Антонавіч КАЗІНЕЦ.** Ён прыняў дырыжорскую палачку ад айца-заснавальніка аркестра Іосіфа Іосіфавіча Жыновіча. Казінец-дырыжор – чалавек валявы, мэтанакіраваны, з сапраўднай народнай закваскай і арыстакратычнай адукацыяй: за плячыма два факультэты кансерваторыі і шматграннае, яркае творчае жыццё, якое вартае, магчыма, дзесяці любых акадэмій.

**Дасье «Народнай Волі»**

**Міхаіл Антонавіч Казінец** нарадзіўся ў вёсцы Цынцановічы Вілейскага раёна. Скончыў Маладзечанскую музычную школу і Беларускую дзяржаўную кансерваторыю.

У 1975 годзе ўзначаліў Нацыянальны акадэмічны аркестр народных інструментаў імя Іосіфа Жыновіча як мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор.

З 1985 года на працягу 20 гадоў быў рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Сваім настаўнікам яго па праве лічаць усе маладыя беларускія музыканты.

Дзейнасць Міхаіла Антонавіча Казінца адзначана ганаровым званнем "народны артыст Беларусі", ён – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі "За духоўнае адраджэнне", узнагароджаны медалём і ордэнам Францыска Скарыны.

**1. – Міхаіл Антонавіч, ці не здаецца вам, што народны аркестр у сённяшнім глабалізаваным, аднолькавым свеце – гэта музей, то бок каштоўны, але закансерваваны экспанат?**

– У корані не згодны. Музей – гэта тое, што застыла ў аўтэнтыцы. Калі б мы жылі ў музейным стане, то былі б у вышэйшай ступені нецікавыя слухачу. Але нашы залы поўныя. Што галоўнае? Мы захоўваем нацыянальную фарманту – акустычную характарыстыку нацыі. У беларускай музыцы і песні няма разгульнасці і бесшабашнасці, але ёсць цішыня, якая неабходна, каб думаць. Народная песня – гэта заўсёды дума, тое, што перажыта, выпакутавана. Іншая справа, што кожны калектыў павінен адчуць у песні сённяшні час. Што і імкнецца рабіць аркестр імя Жыновіча.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ПАЛІТКУХНЯ

## Трохкрокавая стратэгія апанентаў беларускіх улад

У нядзелю ў Мінску прадстаўнікі правага крыла беларускай апазіцыі – **Аб'яднанай грамадзянскай партыі, руху "За Свабоду" і аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя"** – прэзентавалі супольнае пасланне да беларускага грамадства, улад Беларусі і міжнароднай супольнасці.

У прыватнасці, у ім адзначаецца, што для дасягнення рэальных дэмакратычных змен у Беларусі і рэалізацыі права беларусаў на свабодныя і справядлівыя выбары неабходна:

1.змяніць выбарчае заканадаўства і правапрымяняльную практыку нормаў і правілаў, якія гарантуюць:

– безумоўнае ўключэнне прадстаўнікоў усіх палітычных партый і зарэгістраваных кандыдатаў, якія ўдзельнічаюць у выбарах, у выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў;

– празрысты падлік галасоў. Права назіральнікаў атрымліваць любую інфармацыю, што тычыцца выбараў, бачыць змесціва выбарчых бюлетэняў, фіксаваць працэс падліку галасоў наяўнымі ў іх распараджэнні сродкамі, а таксама атрымаць афіцыйную копію пратакола;

– датэрміновае галасаванне і галасаванне дома можа захавацца толькі пры пісьмовым пацвярджэнні немагчымасці прагаласаваць у дзень выбараў на ўчастку;

2.зарэгістраваць усе дэмакратычныя грамадскія аб'яднанні і палітычныя партыі, якім па надуманых прычынах адмаўлялася ў рэгістрацыі, такія як БХД, праваабарончы цэнтр "Вясна" і іншыя. Унесці ў заканадаўства неабходныя і прызнаныя міжнароднымі арганізацыямі змены, якія спрашчаюць працэдуру рэгістрацыі структур грамадзянскай супольнасці, адмяніць артыкулы 193-1 і 369-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь і спыніць праслед палітычных апанентаў, у тым ліку па месцы вучобы і працы, гарантаваць бяспечнае вяртанне палітычных эмігрантаў, рэабілітаваць грамадзян, асуджаных па палітычных матывах, і адмяніць абмежаванні іх правоў;

3.стварыць роўныя ўмовы дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, спрасціць сістэму іх рэгістрацыі, адмяніць незаконныя абмежаванні на выданне і распаўсюджванне незалежных СМІ.

Адсутнасць магчымасці грамадзян абіраць уладу ўмацоўвае карумпіраваную сістэму ўлады і робіць немагчымым паспяховае правядзенне эканамічных і сацыяльных рэформаў. БХД, АГП і рух "За Свабоду" таксама звяртаюцца да ўсіх міжнародных партнёраў з прапановай наўпрост звязаць пытанне аб поўным зняцці візавых і фінансавых абмежаванняў у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў з выкананнем указаных патрабаванняў.

Юрась Губарэвіч, адказваючы на пытанне, чым план дзеянняў правацэнтрыстаў адрозніваецца ад дзеянняў "Гавары праўду!", заявіў, што "ў Беларусі няма выбараў, і мы не павінны ў гэтым удзельнічаць па сцэнарыі беларускіх улад". Некаторыя эксперты ўжо назвалі гэтае аб'яднанне "аб'яднанне супраць Караткевіч" (якая, нагадаем, узначальвае кампанію "Гавары праўду!"). Але, відавочна, што гэта прымітыўны погляд на праблему.

Нам падаецца больш правільным казаць пра тое, што частка апазіцыі спрабуе скарыстацца спробай афіцыйнага Мінска нарэшце наладзіць стасункі з Еўрасаюзам. Пакуль еўрапейскія санкцыі да Беларусі прыпынены, але не адменены. Для поўнай адмены беларускія ўлады павінны прадэманстраваць канкрэтныя крокі. Апазіцыя прапанавала ўсяго толькі тры крокі. Але вельмі і вельмі важныя!

**Алег СНОЎ.**

ЭКАНОМІКА

## Праект бюджэту-2016 для разгляду ў парламент да гэтага часу не паступіў

Пра гэта паведаміла журналістам сябра камісіі па прамысловасці, паліўна-энергетычным комплексе, транспарце і сувязі Палаты прадстаўнікоў **Вольга Палітыка**.

Як вядома, пасля разгляду 25 лістапада праекта бюджэту на 2016 год у "нулявым чытанні" (у закрытым ад прэсы рэжыме) дэпутаты накіравалі яго ў Адміністрацыю прэзідэнта. Пасля ўзгаднення з кіраўніком дзяржавы і ўнясення адпаведных правак гэты дакумент павінен вярнуцца ў парламент, дзе яго мусяць разгледзець і ўхваліць дэпутаты. Пакуль вядома толькі, што ў бюджэт закладзены кошт нафты 50 долараў за барэль і сярэдні курс долара 18.600 рублёў.

Вольга Палітыка не стала адказваць на пытанне, ці азначае адсутнасць праекта бюджэту, што на пасяджэнні 18 снежня дэпутаты яго разглядаць не будуць. "Шчыра – нічога на гэты конт не магу сказаць", – сказала сябра камісіі журналістам.

НАДВОР'Е

## У суботу зноў пацяплее

Пачынаючы з аўторка ў Беларусі чакаецца пахаладанне: паветра з паўночных шырот прынясе паніжэнне тэмпературы да значэнняў, блізкіх да паказчыкаў нормы гэтай пары года. Тэмпература паветра ноччу будзе апускацца да -2...-7°С, максімальная днём -3...+3°С.

Але пахаладанне будзе непрацяглым. З пятніцы надвор'е зноў пачне мяняцца: паўночна-атлантычныя цыклоны, рухаючыся праз паўночныя моры, зноў прынясуць у Беларусь цёплае і сырое паветра. У выхадныя дні зноў усталюецца анамальна цёплае надвор'е з сярэдняй тэмпературай на 4–7 градусаў вышэй за норму, часам дождж. Днём да +9°С.

